

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№58(571) 25 сакавіка 1993 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 617944 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.


## ФАКС

### В двух словах...

**Страны рублевой зоны должны окончательно определиться, готовы ли они взять на себя ответственность за поддержание устойчивости рубля, заявил вчера заместитель председателя правительства России Борис Федоров.**

Из-за избыточной денежной эмиссии в этих государствах в торговле России с ними возникли серьезные дисбалансы.

❑

**Эдуард Шеварднадзе считает: платформа Ельцина — единственный вариант выхода из кризиса.**

На вчерашнем заседании парламента Грузии он сказал, что если политический кризис в России перерастет в гражданскую войну, осколки этого взрыва долетят до многих стран, в том числе и до Грузии.

❑

**Встреча на уровне министров иностранных дел и министров финансов семи наиболее индустриально развитых стран мира, на которой планируется обсуждение вопросов оказания экстренной помощи России, состоится 13—14 апреля.**

❑

**Американским федеральным агентам удалось арестовать в одной из зарубежных стран предполагаемого лидера группы террористов, взорвавших 26 февраля бомбу в подземном гараже всемирного торгового центра (ВТЦ) на Манхэттене.**

### Отказать!

**Неприятный сюрприз получил оргкомитет по празднованию 75-й годовщины образования Белорусской Народной Республики.**

Минские власти не разрешили установление мемориальной доски на здании по улице Володарского, где 25 марта 1918 года была принята 3-я Уставная грамота, провозгласившая образование БНР. Мероприятие, намечавшееся на сегодня, похоже, откладывается на неопределенный срок.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

### Раббани обстреляли, а в госпиталь доставили Наджибуллу

**Совершено нападение на президента Афганистана Раббани.**

Как сообщил вчера из Исламабада корреспондент агентства ЮПИ, инцидент произошел близ населенного пункта Худхель в 10 километрах к востоку от афганской столицы. Охрана Раббани открыла ответный огонь.

❑

**Бывший руководитель Афганистана Наджибулла был тайно доставлен из миссии ООН в Кабуле в военный госпиталь в связи с заболеванием почек.**

После оказания необходимой медицинской помощи экс-президент вновь вернулся в представительство, где под охраной правительственных войск он уже почти год находится в изоляции.

Президент Раббани и премьер-министр Хекматиар заявили, что "судьбу Наджибуллы решит новое правительство".

### Звезда на блюдечке

**То, что в Добруше умеют отменно делать из фарфора столовые, чайные, кофейные сервизы, блюда, сухарницы, в Беларуси знают все. В США, разумеется, этого не знали, пока не состоялась выставка в Майами.**

Там продукция Добрушского фарфорового завода удостоена Международной бриллиантовой звезды по качеству.

**Анатолий ИВАНОВ.**

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Суровы Крымінальны кодэкс супраць нахабнай крымінальнасці...

**Павел СТАСЕВІЧ**

Першы дзень работы нечарговай сесіі беларускія парламентарыі закончылі прыняццем у першым чытанні законапраекта аб Грамадзянскім кодэксе.

А наступны дзень пачаўся, як звычайна, з "Рознага". Народны дэпутат С.Антончык, напрыклад, расказаў пра тое, як нахабна дзейнічаюць розныя "патрэбныя людзі", будуючы сабе катэджы. Звярнуў С.Антончык увагу адпаведных органаў і на тое, з якімі парушэннямі прайшлі выбары кіраўніка ў адной з гаспадарак Дзяржынскага раёна. В.Галубеў з парламенцкай трыбуны павіншаваў усіх з нагоды 75-й гадавіны ўтварэння БНР і папрасіў аб прамой трансляцыі ўрачыстага вечара грамадскасці ў сталічнай філармоніі і святочнага канцэрта. Зрабіў дэпутат запыт ураду і наконт аплаты працы тэхнічных работнікаў навучальных установ.

А вось В.Піскарова трывожылі тыя праблемы, якія ўзнікаюць у грамадзян, калі ім трэба атрымаць пэўную даведку ці трапіць на прыём да дзяржаўных асоб. Гэта тычыцца перш за ўсё справаводства па рэпрэсіраваных, раскулачаных і г.д. Дэпутат В.Чырун гаварыў пра неабходнасць паляпшэння жыллёвых умоў тым, хто мае цяжкія хваробы, у прыватнасці розныя формы туберкулёзу.

Пра неабходнасць больш уважлівых адносін з боку дзяржавы да людзей, якія перажылі жахі фашысцкіх канцлагераў, клапаціўся дэпутат В.Трафіменка. А Л.Баршчэўскі перасцярог ад палітыканства пры памінанні памяці тых, хто загінуў у віхуры шматлікіх войнаў, што пракаціліся па нашай Бацькаўшчыне. Дэпутаты У.Ваўчэцкі і П.Пракаповіч перадалі занепакоенасць — сваю і выбаршчыкаў — станам спраў у аграрным сектары.

Затым парламентарыі пачалі разгляд законапраекта аб Крымінальным кодэксе, які прадставіў старшыня Камісіі па заканадаўству Дз.Булахаў. Ён яшчэ раз падкрэсліў, што ў аснове злачыннасці — сацыяльна-эканамічныя праблемы, а Крымінальны кодэкс — інструмент барацьбы з ёю. І гэты інструмент павінен быць надзейным і універсальным.

Таму новы Крымінальны кодэкс папаўняецца цэлым шэрагам артыкулаў, прадугледжваючых адказнасць за тыя злачынствы, якія ў нас, як гаворыцца, "новыя": карупцыю, ілжэпрадпрымальніцтва, камерцыйны подкуп і г.д. Разам з тым новы кодэкс строга будзе абараняць свяшчэннае права грамадзян на ўласнасць, прадугледжвае адказнасць арганізатараў злачынных груп, якія зараз часта "выходзяць сухімі з вады", падстаўляючы пад удар закона дробных "стрэлачнікаў". Застаецца ў Крымінальным кодэксе і смяротная кара за найбольш злосныя злачынствы.

Адным словам, беларускія парламентарыі закладвалі адзін з краевугольных камянёў законнасці і правапарадку. Таму і абстаноўка ў зале была адпаведная — удумлівая, спакойная і разважная.

У абмеркаванні прынялі ўдзел дэпутаты В.Піскароў, В.Ціхіня, М.Грыб, В.Шачак, В.Трафіменка, І.Герасюк. Сэнс іх выступленняў, калі коратка, такі: злачынцы павінны несці адказнасць за свае дзеянні па ўсёй строгасці закона. Асабліва ў выпадках, калі робіцца наўмысны замах на пачуццё ўласнай годнасці і жыццё чалавека.

Вобразна кажучы, новы Крымінальны кодэкс рэспублікі ставіць прававую "сетку" для розных злачынстваў і больш шырока, і больш глыбока, і больш жорстка.

Як дапаможа беларусам гэты дакумент у рэальным жыцці — пакажа час. Але радуе тое, што парламентарыі цягнуць з прыняццем гэтага законапраекта не думаюць — на чарговай сесіі ён будзе разглядацца ў другім чытанні.

Пасля непрацяглага і спакойнага абмеркавання на дзённым пасяджэнні дэпутаты прынялі ў першым чытанні законапраект "Аб адвакатуры".

А вось пытанне аб Канстытуцыйным судзе рэспублікі да перапынку "прайсці" не ўдалося: многія дэпутаты трывожыліся, каб названы вышэй орган не стаў такім жа дэстабілізуючым, ненадзейным і палітычна кан'юнктурным, як у суседняй Расіі...

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб парадку дня нечарговай адзінаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

Уключыць у парадак дня нечарговай адзінаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання наступныя пытанні:

1. Аб праекце Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь.
2. Аб праекце Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.
3. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб адвакатуры".
4. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь".
5. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб судовым ладзе і статусе суддзяў".
6. Аб праекце Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.
7. Аб праектах заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у дзеючыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з прапановамі органаў і асоб, якія валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы.
8. Кадравыя пытанні.
9. Аб эканамічнай сітуацыі, стане і развіцці эканамічных адносін з краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў.
10. Даклад Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шушкевіча С.С. аб становішчы рэспублікі і аб важных пытаннях яе ўнутрыпалітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

23 сакавіка 1993 г.
г.Мінск.
№2253-XII

## Роўна 75 гадоў таму назад была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка



Гэту Устаўную Грамату Рады Беларускай Народнай Рэспублікі прыймаем і падпісаем абавязуючыся усе варункі, які акт гэты патрабуе, і праводзіць іх у жыцці.

Часовы Старшыня Ураду Язэп Варонка

Сакратары:

Сёлета ўпершыню ў нашай рэспубліцы так шырока адзначаецца 75-я гадавіна ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Тры чвэрці стагоддзя для большасці як бы і не існавала вялікага подзвігу лепшых сыноў нашай Бацькаўшчыны, што імкнуліся спраўдзіць адвечную мару народа аб дзяржаўнасці і волі. І дагэтуль з архіўнымі дакументамі, што адносяцца да тых падзей, працуюць толькі вучоныя. Шырокае іх вывучэнне яшчэ наперадзе.

А сёння дзякуючы дапамозе супрацоўнікаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь мы змяшчаем рэдкія здымкі. Ліст з Устаўной граматы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з подпісамі народных сакратароў. Менавіта гэтай граматай ад 25 сакавіка 1918 года Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай і вольнай дзяржавай. У гэтым дакуменце адзначалася, што беларускі народ не прызнае для сябе абавязацельстваў мірнага дагавора, які падпісаў савецкі ўрад у Брэст-Літоўску, выказвалася надзея, што ўсе волелюбівыя народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры ажыццявіць яго дзяржаўна-палітычныя ідэалы. Але не збылося, гісторыя павярнула па-свойму...

Левы здымак больш вядомы, на ім — першы ўрад (Народны сакратарыят) Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Сяргей ГРЫЦ.**
**Фота аўтара.**

*Горячая тема*

## Москва — снова центр. Внимания

**После однодневного затишья вчера утром на заседании российского парламента грянула буря. Ельцину грозил неотвратимый импичмент.**

По хасбулатовскому сценарию достаточно было добиться решения о немедленном созыве чрезвычайного съезда. А там — дело техники. Благодаря мощной поддержке небесспорного решения Конституционного суда, оглашенного на утреннем заседании, такое решение было принято буквально в считанные минуты. Без ознакомления с президентским указом. Призывы некоторых депутатов к благоразумию были напрасны. В зале возник беспорядок, грозивший новой депутатской потасовкой. Спикер объявил перерыв...

А после перерыва новый председательствующий дал обратный ход: решение о созыве 26 марта чрезвычайного съезда признано ошибочным, но отменено не будет, хотя комиссия по соблюдению регламента и нашла грубейшие нарушения со стороны спикера. В следующем перерыве, который длился до полшестого, шли незапланированные переговоры Б.Ельцина с Р.Хасбулатовым и В.Зорькиным, но они завершились безрезультатно.

**Леонид ФАДЕЕВ.**

❑

**Мнение о нынешней ситуации в России в интервью корреспонденту агентства Белинформ высказали некоторые белорусские государственные и политические деятели.**

В частности, лидер Партии народного согласия народный депутат Геннадий Карпенко считает, что в России продолжается "концертная программа двух лидеров". Ельцин и Хасбулатов, по мнению Карпенко, забыли про саму Россию.

"В связи с событиями положение в России будет худшим", — считает председатель КГБ Республики Беларусь Эдуард Ширковский. По его мнению, в России нужна власть, которая заставит уважать законы. Съезд народных депутатов Российской Федерации, сказал Ширковский, не является таковым.

❑

**Президент Молдовы Мирча Снегур вчера заявил, что падение демократии в России означало бы для Молдовы приход к власти сторонников ее расчленения, которые и сейчас продолжают сдерживать процесс возвращения к нормальной жизни в Приднестровье.**

### Ало, вас слухае "Народная газета"

Заўтра, 26 сакавіка, з 9 да 13 гадзін па тэлефоне 29-69-68 вашых званкоў, шаноўныя чытачы, чакае аглядальнік Віктар Віктаравіч ХАРОШКА.



**Віктар ХАРОШКА — пра сябе**

Родам з Хойніцкага раёна. Лёс распарадзіўся так, што журналісцкую дзейнасць прыйшлося на некалькі гадоў перапыніць работай у камсамоле. Рэпарцёрскі хлеб зарабляў у "Знамени юности" і акруговай газеце "Во славу Родины". У "Народнай газеце" са студзеня 1991 года. Мая галіна — гандаль, бытавое абслугоўванне, транспарт, жыллё.

Цаню ў людзях сумленнасць і прыстойнасць. Веру ў дабрату. Схіляю галаву перад бацькамі.

Жанаты. Гадую двух сыноў.

*Размышления о насущном*

# Время правительство упустило...

**Владимир ЗАБЛОЦКИЙ, народный депутат Республики Беларусь, заместитель председателя оппозиции БНФ в Верховном Совете**

Я понимаю, что взывать к разумению и действию наше правительство более нет смысла. Со стороны оппозиции в Верховном Совете было сделано все возможное, чтобы обеспечить восприятие предложений, прогнозов, а время подтверждало их корректность. Правительство и его первые лица расточали заверения, обещания, согласие с предлагаемыми подходами, но ничего не предпринимали для формирования и проведения самостоятельной экономической политики в течение двух последних лет. Для имитации деятельности использовалась атрибутика бега на месте: все потные от усердия, но никакого продвижения. Действительной работы не было, и сегодня можно сказать, что ее и не предполагали делать. В результате правительство (и по его милости Республика Беларусь) безнадежно упустили самое ценное — время, и восполнить эту потерю нечем. Следует сразу оговориться, что самостоятельная экономическая политика не предполагает изоляции от ближних и дальних стран, а, наоборот, подразумевает активное сотрудничество при соблюдении и своих интересов.

Основной задачей руководства являются правильная оценка ситуации и прогноз, своевременная подготовка решений и мер по смягчению для республики возможных последствий от наступления тех или иных событий. И в этом — профессионализм руководства. Если же и правительство, и Верховный Совет начинают размышлять о последствиях только после наступления события, то такая политика гибельна для общества, граждан, государства.

Экономическая политика правительства основывалась на условии получения сырья, энергоресурсов и комплектации по низким ценам. Особенно это относится к энергоресурсам. Помимо ожидания низких цен поддерживался принцип единственного, но надежного поставщика. Ожидание низких цен не оправдалось, а другие поставщики не подготовлены. Самый тревожный сигнал, можно сказать, последний, прозвучал в виде резкого подъема цен на зерно, но воспринят не был. А это элементарная истина, которую знают все: нефть и зерно одинаковые по цене биржевые товары. Цена на зерно уже достигла 105 тыс. руб. за одну тонну, что по рыночному курсу валюты выше среднемировой. Но и сегодня у правительства еще сохраняется надежда на получение энергоресурсов по заниженным ценам — опыт не усваивается. Выход — в переводе экономики на мировые цены — работа, требующая времени и многих усилий. При этом возникает необходимость определения стоимости товара — рабочей силы, с тем чтобы сохранить покупательную способность населения. Придется также признать и руководствоваться, казалось бы, простой истиной: в самое ближайшее время экономика новых государств, будь то Россия, Беларусь или Украина, не сможет обойтись без создания конкуренции при потреблении товаров, а ресурсов тем более. Производитель получит право свободно продавать свою продукцию по цене спроса-предложения, в противном случае мы предложим убийственную для любой экономики практику уменьшения стоимости валового национального продукта в результате технологических переделов. А это — проедание накопленного прошлым трудом.

Время правительством упущено, не подготовлены условия для введения собственной валюты, кредитно-финансовой и ценовой структурной реформ, не было даже попытки серьезно подойти к формированию вторых и третьих поставщиков, не подготовлены решения по переводу экономики на рыночные механизмы, не сформирована концепция государственности Беларуси. Шла мышиная возня по якобы защите внутреннего рынка, введению якобы денег, что аукнулось изоляцией внутреннего рынка. Были и другие деяния. Поскольку курс правительства оказался несостоятельным и есть необходимость ответа за итоги, подается идея об экономическом союзе. Никто ведь никогда не возражал против создания общего рынка стран Содружества, и представители Беларуси давно должны были требовать цивилизованных отношений. Например, ратификации всеми партнерами Конвенции ООН по поставкам и т.п., арбитража, полной хозяйственной ответственности поставщика, межбанковских соглашений и т.д. Эту политику обязаны были давно проводить в интересах республики соответствующие структуры. Как теперь видят этот союз наши руководители? Один из них в "Народной газете" (N 53 от 18.03.93): "Мы хацелі б мець моцны эканамічны саюз у рамках той прасторы, якая была прасторай былога СССР. Эканамічны саюз павінен існаваць толькі на рыначнай аснове, а для гэтага трэба выканаць некаторыя ўмовы. Напрыклад, для таго, каб на граніцы рэспублікі не было мытных падаткаў, трэба мець агульную фінансавую сістэму, а гэта значыць узгоднены дэфіцыт бюджэту і ўзгодненую сістэму падаткаабкладання". Хотя бы посмотрели, уважаемые, в свой же конституционный закон. И уж совсем непонятно, причем здесь отсутствие таможенных пошлин и единая финансовая система. Вполне могут уживаться разные финансовые системы государств и договор о беспошлинной торговле. Первое лицо исполнительной власти идет еще дальше в своих намерениях: предлагается фактически покончить с государственностью Республики Беларусь, т.е. добавить к единой с Россией финансовой системе отказ от движения к нейтралитету, вступить в военный блок, опять ориентироваться на противостояние и военные затраты. За всем этим стоят серьезные подвижки в политике. Во-первых, снять с себя ответственность за бездеятельность и спихнуть ее на кого-то, скажем, на Москву. Во-вторых, отсутствие у руководства потенциала для проведения самостоятельной политики. В-третьих, возврат к своему привычному менталитету — исполнению указаний Центра и переложению на него всей ответственности за результаты.

Продолжая разговор о поставках энергоресурсов, нельзя обойти вниманием прогноз по трем вариантам развития нефтедобычи в России, когда даже по третьему оптимистическому, при значительных валютных инвестициях (более 50 миллиардов долларов США) в эту отрасль, страны СНГ смогут получать из России не более 40 % своих потребностей. Следовательно, необходимы вторые и третьи поставщики. О том, что это снижение добычи нефти в России произойдет, прогнозировалось еще в 1985—87 гг. Однако никаких реальных шагов по созданию других каналов снабжения правительством сделано не было. Само собой ничего не решалось, а политической воли по проведению самостоятельной политики не обнаруживается. Опыт наших соседей показывает, что те новые государства, которые нерешительно и непоследовательно проводили переход к рынку, только ухудшили состояние своей экономики и не смогли создать хотя бы перспективу улучшения жизни своих граждан. Но есть страны типа Чехословакии, Эстонии, которые сумели найти и осуществить принципиальные подходы в своих реформах.

Такие подходы дали результаты: упорядочены отношения собственности, стабилизированы валюта и цены, что позволяет развиваться производству, и создаются условия для структурной перестройки. После введения в Эстонии собственной денежной единицы и проведения валютной реформы крона за полгода стала котироваться на валютных биржах в качестве твердой валюты. Однако валютную реформу здесь рассматривали как комплексную проблему: таможенное пространство, граница, Центральный банк, кредитные стабилизационные резервы, гарантии права собственности, нацеленность на структурную перестройку, расширение торговых связей и т.п., т.е. не свели эту реформу к технической задаче печатания наличных денег. Я уверен, что осознание государственности и реализация государственных институтов, рыночные механизмы, принципиальная политика Центрального банка, скорректированная торговая политика уже дают положительные результаты и приведут к тому, что жители Эстонии смогут достигнуть высокого уровня жизни в ближайшие 3—5 лет.

Предложение правительства влиться в экономику России вместе с созданием общих военных структур и военно-промышленного комплекса с большой вероятностью приведет к потере, возможно, последнего исторического шанса для Беларуси возродиться как нации через создание своей государственности. За потерю этого шанса наши дети и внуки проклянут нас. Поэтому предлагаемая правительством политика, мало сказать, неприемлема, эта политика антигосударственная и безнравственная. Старательно распространяется точка зрения, что народ Беларуси обречен на голод, вымирание, если Беларусь как государство будет самостоятельно определять и проводить политику. Это сознательный обман, это неправда. Такой трудолюбивый, талантливый народ никогда не жил и не будет жить нахлебником, за счет других.

Оппозицией БНФ в Верховном Совете, другими демократическими организациями предлагаются конкретные шаги по становлению нашего государства, стабилизации экономики, проведению политической реформы, основанной на принципе разделения властей, новой бюджетной политике и т.д. Подробно об этом в следующих статьях.

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*З асабістай перапіскі*

# Ці адплатны той боль...

*Журналістам пішуць пісьмы. Асабліва пасля публікацыі, што закранае якія-небудзь часцінкі чалавечай душы. Цікава, што колькасць такіх водгукаў не залежыць ад памеру артыкула. Іншы раз напішаш яго на дваццаць машынапісных старонак і як быццам камень у ваду кінуў. А маленькая нататка ў дзесяць газетных радкоў выклікае раптам цэлы выбух чалавечых страсцей.*

*Гэта перапіска ўзнікла якраз пасля публікацыі майго невялікага інтэрв'ю з народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь Генадзем Казловым, парафіраваўшым у Боне ад імя ўрада пагадненне аб матэрыяльнай кампенсацыі грамадзянам нашай дзяржавы, ахвярам нацыянал-сацыялізму. З усяго бачна, што людзям карціць расказаць, як гэта было, іх хвалююць праблемы сённяшняга жыцця пацярпеўшых ад фашызму. Прычым пісьмы ідуць на рускай і беларускай мовах. Таму я буду прыводзіць іх на мове арыгінала. Вось першае, вялікае, на 14 старонках, нават прыпіска ёсць: "Наберитесь терпения, прочитайте". Набраўся, прачытаў і прыводжу вытрымкі:*

"Уважаемый господин Дроздов, пишет вам старая женщина, бывшая узница концлагеря Освенцим Лишакова Зинаида Максимовна.

... В один и тот же день фашисты арестовали в нашем Шумилино 24 человека. Местная тюрьма, потом заключение в пятом полку г.Витебска, потом Освенцим. Из Освенцима нас из 24 человек вернулось только 7, а из них осталась только я одна.

... В настоящее время бывшим малолетним узникам и тем, что были в Германии, 1925—1926 года рождения, государство платит 25 процентов надбавки к пенсии. Нам же, бывшим узникам концлагерей, кто попал в заключение в возрасте 18—20 лет, надбавки почему-то нет. Мы — солдаты незримой войны, вынесли все тяготы концлагерей, нас остались единицы, а государство нам этих 25 процентов пожалело.

... Что же касается документов, кто где был... В 1991 году районные отделы социального обеспечения проводили анкетирование всех бывших в Германии. К анкетам прилагались справки. Где они, те анкеты, какова их судьба? Их нет и справок нет.

... Хотелось бы, если такое случится (Зінаіда Максімаўна мае на ўвазе размеркаванне кампенсацыі. — В.Д.), чтобы к этой работе были привлечены честные люди, чтобы эта немецкая милостыня нашла своего адресата. Но не верится, что в нашем государстве дураков и воров есть еще честные люди".

*А вось яшчэ адно пісьмо, якое я прыводжу цалкам, без усялякіх скарачэнняў і правак па некалькіх прычынах. Першнаперш таму, што яно напісана на нашай мове, якая ўратавалася ад усялякіх напасцей у глухой лясной вёсачцы. Людзі там думаюць на ёй, размаўляюць, таму што яна іх родная. Яны іншай нават не ведаюць. А яшчэ таму, што за гэтымі бясхітраснымі радкамі лёс простых беларускіх жанчын. Чалавечы лёс...*

"Шаноўны Валеры Драздоў!

Прачыталі мы вашу заметку ў "Народнай газеце" "Пепел Хатыни стучит в мое сердце" і задумаліся: мо і нам паложана гэтая кампенсацыя? А як яе дабіцца, дзе адшукаць тыя даведкі? Мяне з маці і сястрою ў маі 1944 года злавілі ў лесе, мы хаваліся ад немцаў, бо нашы вёскі палілі, а людзей забівалі. Загналі нас у вагоны і павязлі. Тры дні не выпускалі з вагонаў. Некаторыя людзі памерлі, і іх выкінулі на якімсьці прыпынку. У Германіі нас загналі ў лагер, а потым адабралі больш здаровых і малодшых і павезлі да французскай граніцы. Матцы маёй тады быў 41 год, яна 1903 года нараджэння, старэйшай сястры — 17 гадоў, а мне — 14. Завезлі на завод, дзе рабілі нейкія машыны. Нас навучылі працаваць на станках. Мы з сястрой штампавалі дэталі, а маці працавала ў ліцейным цэху. На ноч заганялі ў баракі за калючы дрот. Кармілі нас вельмі дрэнна. Мы ўвесь час адчувалі голад і марылі наесціся ўдосталь хлеба.

Гэты завод быў у горадзе Недэршэль, каля горада большага Зынген. Ужо правільнай назвы гэтых гарадоў і не памятаю. Сталі бамбіць амерыканцы гэты горад. Маці цяжка параніла асколкамі ў рукі і спіну. Немцы забралі маці ў свой шпіталь і там яе лячылі. У красавіку 1945 года нас вызвалілі амерыканцы. Маці яшчэ добра не паправілася ад ран, але адшукала нас. Потым амерыканцы перадалі нас англічанам. Жылі мы ў англічан добра, галоўнае — ужо не галадалі і хадзілі вольна па горадзе. Жылі мы ў гэтым лагеры да верасня 1945 года. Прыехалі да нас нашы рускія афіцэры, пагрузілі ў вагоны і павезлі цераз Германію дадому, на радзіму. Нас было шмат, і па дарозе яшчэ падбіралі ў розных гарадах. Так мы і вярнуліся на радзіму. Дома ўсё было спалена. Зімавалі ў зямлянках, не было чаго есці. Пачаўся тыф, і багата нашых людзей памерла. Я выйшла замуж, працавала з мужам на падсочцы (збіралі смалу з соснаў). Работа цяжкая, але быў заробак лепшы, чым у калгасе. У калгасе тады нічога не атрымлівалі на працадні. Пайшлі дзеці. Нарадзіла я і выгадавала пяцёра дзяцей. Гадавала без мужа, ён памёр рана, у 71-м годзе. Маці мая, дзякаваць Богу, яшчэ жыве, ёй ужо 90 гадоў, а старэйшая сястра памерла. Маці перажыла і раскулачванне. У 1933 годзе нас раскулачылі і ўсё забралі. Бацька ўцёк у лес, і яго не арыштавалі, але ў 1938 годзе ўсё ж арыштавалі, і ён год сядзеў у Мазырскай турме. Выпусцілі яго пасля катаванняў. Не прайшоў і год, як пачалася вайна. Бацьку забралі ў армію, і ён загінуў на фронце. Вось так мы і жылі. Цяпер зноў стала цяжка жыць. Маці мая і кажа: я хутка памру, але калі так пішуць, што Германія можа людзям за іх мукі заплаціць, то хоць бы ўнукам дасталіся тыя грошы. Ім цяпер у гарадах жыць таксама цяжка.

Шаноўны карэспандэнт, калі ласка, напішыце нам, дзе можна адшукаць даведкі, што мы былі ў Германіі. Каму і куды пісаць? Мы жывём у глухой лясной вёсачцы. Добра, што паштальён яшчэ носіць газеты. І вось мы даведаліся аб гэтым. Нам прачыталі, і вось мы вам пішам, каб чым-небудзь дапамаглі нам у гэтай справе.

З нізкім паклонам да вас. Добрага вам здароўя. Маю маці завуць Мышкавец Ульяна Апанасаўна, а мяне — Каваленка (па мужу) Ева Паўлаўна.

Наш адрас: 247302, Гомельская вобласць, Акцябрскі раён, вёска Жукаўка".

*Ну што тут скажаш? Перш-наперш хачу адагнаць трывогу ў Зінаіды Максімаўны. Паверце, у нашай маладой суверэннай дзяржаве яшчэ шмат чэсных людзей. Будзе яшчэ квітнець наша Беларусь! І вашай справай будуць займацца менавіта людзі крыштальнай чысціні. Вы ў сваім пісьме пішаце пра маркі, якія ад ведамага фонду "Максімільян-Кольбе-Верк" прывозіла ў Віцебск немка Элізабет Эрб і быццам бы хтосьці іх раздаваў не тым, каму патрэбна. Здаецца, паважаная Зінаіда Максімаўна, што гэта нейкае непаразуменне. Мы паспрабуем з ім разабрацца. Асабіста я пагаджаюся з вамі, што з пенсіяй для былых вязняў канцлагераў штосьці, як кажуць, не тое. Мы азнаёмім з вашым пісьмом тых народных дэпутатаў, якія займаюцца гэтай праблемай. Лічу, што ў дадзеным выпадку яны зразумеюць вас.*

*Хачу яшчэ дадаць, што ваш боль за ўсё перажытае я ўспрымаю як асабісты. Таму што родам з Гарадоччыны, якая граніччыць з Шумілiншчынай. Мае родныя мясціны як партызанскі край падвяргаліся карным экспедыцыям мноства разоў. У Нямеччыну загналі і майго дзеда па матчынай лініі, вечная яму памяць. Ды і з дзяцінства я рос на гісторыях, падобных да вашай і Ульяны Апанасаўны. Таму як журналіст і як грамадзянін буду трымаць вашы справы, як кажуць, на асабістым кантролі.*

*Як быць з даведкамі? Па-першае, трэба запоўніць анкету ў райсабесе. Калі няма дакументаў і сведак, адпаведныя органы будуць рабіць запыт у архівы Германіі. Як запэўніваюць людзі свядомыя, менавіта гэта частка справаводства ў немцаў пастаўлена выдатна. І калі вы там былі, то ў іх усё пазначана.*

*Далей. Урадам зараз створана афіцыйнае падраздзяленне, якое будзе займацца стварэннем "Фонду ўзаемапаразумення і прымірэння". Дзеля гэтага на 7 адзінак павялічаны штат супрацоўнікаў Камітэта па сацыяльнай абароне ваеннаслужачы, асоб радавога і начальніцкага саставу органаў унутраных спраў, воінаў-інтэрнацыяналістаў, звольненых у запас (адстаўку) і членаў іх сем'яў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.*

*Гэта падраздзяленне ўжо распачало адпаведную работу. Падключаецца да яе, ці лічыце, што ўжо падключылася, і "Народная газета".*

*І яшчэ. Неяк няёмка, што вы, Зінаіда Максімаўна, называеце мяне "господином". Для вас я хутчэй таварыш ці сын.*

*З павагай*

Валеры ДРАЗДОЎ,
агладальнік "Народнай газеты" па пытаннях дзейнасці ўрада.

P.S. Калі матэрыял быў падрыхтаваны да друку, у рэдакцыю патэлефанаваў народны дэпутат Генадзь Казлоў. У сувязі з публікацыяй інтэрв'ю ён таксама атрымлівае даволі шмат пісьмаў. Таму хацеў бы ўдакладніць шэраг пытанняў. Па першае: права на кампенсацыю будуць мець далёка не ўсе былыя ў Германіі. "Фонд узаемапаразумення і прымірэння", у які, дарэчы, увойдуць прадстаўнікі міністэрстваў унутраных спраў, замежных спраў, абароны, сацыяльнага забеспячэння, Камітэта дзяржаўнай бяспекі, члены грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў, у першую чаргу будзе разглядаць дакументы вязняў канцэнтрацыйных лагераў, малалетніх вязняў, вывезеных на прымусовыя работы ў Германію, асоб, якія падвергліся псеўдамедыцынскім эксперыментам.

Даволі вялікую частку пытанняў у гэтым напрамку належыць выращыць супрацоўнікам Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Падчас перамоў з іх расійскімі і ўкраінскімі калегамі павінна быць вызначана "беларуская доля" ад таго самага нямецкага мільярда марак.

Генадзь Іванавіч выказаў і здзіўленне ініцыятывай Камітэта па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых, асоб радавога і начальніцкага саставу органаў унутраных спраў, воінаў-інтэрнацыяналістаў, звольненых у запас (адстаўку), і членаў іх сем'яў, які прапануе анкеты (яе мы сёння таксама друкуем) высылаць менавіта ім. Значная частка гэтай справы ўжо праароблена райсабесамі, і менавіта адтуль будуць брацца ўсе дакументы. Тым, хто ўжо стаць у райсабесах на ўліку, нічога нікуды высылаць не трэба. Мы таксама лічым, што хлопцы нарабілі сабе лішняй работы і вельмі хутка гэта адчуюць.

Тым больш што не паспеў ваш агладальнік апусціць тэлефонную трубку, як падняў яе зноў. У рэдакцыю звярнуўся Сігізмунд Эдуардавіч Эрдман, які пражывае ў Мінску на вул. Машэрава. Запоўненую анкету ён не паленаваўся асабіста прынесці на Бабруйскую, 3, але яго адтуль... прагналі. Нейкі чыноўнік заявіў, што анкету абавязкова трэба высылаць поштай. Ну, хлопцы, так справы не робяцца. Пажылы чалавек, у якога ў Асвенцыме загінулі бацька, маці і сястра, прыйшоў да вас не за міласцінай, а як да дзяржаўных служачых. Здаецца, старшыні вышэйназванага камітэта Сяргею Гайдукевічу патрэбна тэрміновая "разборка" са сваімі падначаленымі.

*Публікуем узор анкеты для тых, хто быў вывезены на прымусовыя работы ў Германію ў час Вялікай Айчыннай вайны. Неабходна яе перадрукаваць (калі няма такой магчымасці, акуратна перапісаць), строга ў адпаведнасці з зададзенымі пытаннямі разборліва запоўніць і выслаць у Камітэт на сацыяльнай абароне ваеннаслужачых, асоб радавога і начальніцкага саставу органаў унутраных спраў, воінаў-інтэрнацыяналістаў, звольненых у запас (адстаўку), і членаў іх сем'яў на адрас: 220050, г.Мінск, вул. Бабруйская, 3.*

## АНКЕТА

### для вывезеных у Германію на прымусовыя работы ў час Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гг.

Паважаны (ая)! Для ўдакладнення даных аб былых вывезеных у Германію на прымусовыя работы, з якімі праводзіліся медыцынскія эксперыменты ў 1941—1945 гг., просім вас адказаць на пастаўленыя ў анкеце пытанні:

1. Прозвішча (для жанчын дзявоцкае на перыяд вывазу), імя, імя па бацьку ____________

2. Дата нараджэння ____________ 3. Месца нараджэння ____________

4. Адукацыя ____________ 5. Нацыянальнасць ____________

6. Веравызнанне ____________

7. Адрас на перыяд адпраўлення (калі запаўняюць родныя, знаёмыя, указаць і прычыну смерці) ____________

8. Месцы прымусовага ўтрымання ў Германіі, адрас на той перыяд, прозвішча дырэктара, кіраўніка завода, маёнтка і г.д. і час работы ____________

9. Прадпрыемства з ______ па ______ : адрас ____________
ферма, бауэр з ______ па ______ : адрас ____________

10. Работа ў якасці (прафесія) ____________

11. Жыллёвыя ўмовы (утрыманне ў лагеры, на ферме, свабоднае пасяленне і г.д.) ____________

12. Вяртанне ў СССР. Месца адпраўкі, прычына (захворванне, траўма і г.д., вызваленне часцямі Чырвонай Арміі, арміі ЗША або інш.) ____________

13. Ці захаваліся дакументы таго перыяду, фатаграфіі ____________

14. Становішча пацярпеўшага (здароўе, жыллёвыя ўмовы і г.д.) ____________

15. У якой дапамозе мае патрэбу (медыцынская, матэрыяльная, санкурлячэнне за рубяжом) сацыяльная, не выкананы стаж у сувязі з захворваннем, траўмай, атрыманай на прымусовых работах ____________

16. Калі вы запоўнілі анкету для сваяка, знаёмага, укажыце ступень роднасці і ваш адрас ____________



*Услышьте!*

## Всех грабят, а нас — несколько раз!

Мы, жильцы жилищно-строительных кооперативов Пинска, крайне озабочены тем, что чем дальше мы углубляемся в рынок, тем тяжелее становится людям, проживающим в домах ЖСК. Дело в том, что с самого начала деятельности ЖСК со стороны государства не было создано механизма для защиты его членов.

С приходом новых людей к власти, которые были за справедливость и честность, мы связывали свои надежды, что хоть что-то изменится по отношению к нам. Но, увы, этого не происходит, а создается еще больший нажим.

Взять, к примеру, налог на землю, проценты на недвижимость, услуги сбербанков. И мы увидим, что как существовало деление людей на черных и белых, так и существует. Нам, как и раньше, приходится часть своего заработка отдавать на то, чтобы кто-то получил бесплатную государственную квартиру и в последующем этот жилищный фонд содержать.

Но если заглянуть в платежные квитанции госквартир и сравнить их с нашими, то оказывается, что едва ли не половина коммунальных и других услуг, оказываемых жильцам госквартир, в этих квитанциях не указана, и потому платить им приходится в несколько раз меньше, чем нам. Вот и получается, как в народе говорят: всех сегодня грабят средь белого дня, а жильцов ЖСК — несколько раз.

Мы предлагаем на этой сессии Верховного Совета Республики Беларусь рассмотреть вопрос об оплате всех оказываемых услуг ЖСК на уровне с государственными домами. Данная проблема очень волнует всех членов ЖСК республики, а не только Пинска.

**Председатели ЖСК-45, ЖСК-25, ЖСК-27 и еще двадцати пяти жилищно-строительных кооперативов г.Пинска.**

*Здарэнні*

## Клюнулі на вудачку камерсантаў

Работнікі Хоцімскага аддзела міліцыі не паглядзелі на тое, што вывозімы з Беларусі груз суправаджалі "свае" людзі — начальнік Крычаўскага ГРАУС Міхаіл Цітоў і яго сябар — намеснік начальніка свайго ж мясцовага РАУС Мікалай Храбры. Затрымалі ўсю кампанію. У трох аўтафургонах аказалася 298 тэлевізараў. Невядомымі шляхамі здабылі іх прадпрымальнікі екацярынбургскага малога прадпрыемства "Сімург" на мінскім "Гарызонце". Адным з сувязных звенняў выступіла крычаўскае прадпрыемства з абмежаванай адказнасцю "Самех". Вось і ўзяліся вартавыя парадку дапамагчы мясцовым камерсантам пераправіць без ліцэнзіі за межы рэспублікі гэты дэфіцыт.

Калегія УУС Магілёўскага аблвыканкама звольніла М.Цітова і М.Храбрага з органаў унутраных спраў за дыскрэдытацыю звання работніка міліцыі. Матэрыялы перададзены ў пракуратуру. Адначасова трое работнікаў Хоцімскага РАУС за праяўленую пільнасць прэміраваны ў суме месячнага аклада.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ,**
**Белінфарм.**

*г.Магілёў.*

*Неслышимое? Неслыханное?*

# За душу берут...

## или Размышления о том, почему белорусские родители твердо решили бороться с древнеиндийским богом Кришной

**Ирина ДЕРГАЧ**

— Но ведь вина родителей только в том, что они любят тебя больше, чем Кришну, — про себя решаю, что взываю к его сыновним чувствам в последний раз.

— Это временное, — спокойно ставит точку на этой теме Сережа.

Прощаясь, он просит об одном — не писать о Кришне с его слов, ведь он может еще не совсем правильно толковать учение. Лучше просто цитировать "Бхагавад-гиту".

Именно в этой книге для него сейчас заключено все постоянное и настоящее, а та любовь, послушание и готовность к самопожертвованию, которые так настойчиво воспитывали в нем близкие, обращены лишь на Кришну и его бхакт. Когда родные при нем говорят о вещах, которые не хотел бы слышать Кришна, он читает маха-мантру и таким образом отгораживается от происходящего вокруг.

— Кришна защищает меня от ударов кармы. Пока он со мной, ничего плохого не случится, и даже то, что поначалу покажется мрачным, в конце концов лишь послужит во благо...

Мы наслушались о том, что вера творит чудеса. "Преданный слуга Кришны" — бхакта — Сережа по воде не ходит и страждущих не исцеляет, но кое-что о действии искренней веры мог бы рассказать и он. Продавая с приятелем кришнаитскую литературу ("распространяя, — уточнил он после, — и собирая пожертвования"), он имел нелицеприятный разговор с местной крутизной в адидасах. Денег щуплые на вид кришнаиты предложить не могли — выручка от продажи книг предназначается Кришне. Спортивные штаны пригрозили, унесли литературу с собой, но ребят не тронули.

За рассказами о чудесах веры не слышно тех, кому она причиняет страдания.

Санскритский текст "Бхагавад-гиты" — это диалог между Кришной и его бхактой Арджуной: волею обстоятельств последний должен сражаться против своих близких родственников. Арджуна пытается отказаться от битвы: для него и царствование потеряет всякое наслаждение после убийства родственников. Комментарии, которые занимают девять десятых этого издания "Гиты", объясняют чувства Арджуны недвусмысленно: "Это решение было основано на телесной концепции — он думал, что его тело и есть он сам, и что эти физические родственники и были его братьями, племянниками, зятьями, дедами и т.д. Он думал, таким образом, об удовлетворении требований своего тела".

В конце концов Арджуна решил сражаться под руководством Кришны.

Отказавшиеся от "телесной концепции" белорусские кришнаиты и приверженцы иных течений не выходили на поле брани, но за последние годы у их близких значительно прибавилось седых волос и убавилось здоровья.

Полгода прошло с тех пор, как ушел из дома семнадцатилетний сын Светланы Михайловны. В письме, присланном на адрес храма "сознания Кришны", причиной разрыва с родственниками названо неприятие Кришны близкими. Где может находиться все это время ушедший без денег и теплой одежды студент-первокурсник, чем он зарабатывает себе на жизнь?

Задав себе эти вопросы и догадываясь о том, кто может на них ответить, мать не выдержала, пришла в храм. Билась в истерике у аккуратных, добротно выложенных стен. В ответ улыбались предупредительно: будешь так себя вести — вообще никогда его не увидишь.

Второй белорусский бхакта, старшеклассник, недавно выписался из больницы. Врачи находили у него мышечную дистрофию: исключив, по совету ведической литературы, из своего рациона мясо, рыбу, яйца, какао, шоколад, чай, лук, чеснок, а также "пищу, приготовленную людьми, которые не являются бхактами Кришны", он остался на хлебе и воде. Первое время в больнице тоже отказывался есть: так хотел Кришна. "Ведь человек все равно умирает с каждым мгновением, хотя и думает, что будет жить вечно. В сущности, смерть начинается с самого рождения", — так утверждает Шрила Прабхупада, основатель Международного общества сознания Кришны и автор комментариев к "Гите", в другой своей книге — "Жизнь происходит из жизни".

Поскольку чаяния и устремления "телесных" родителей пошли вразрез с желаниями Кришны в понимании наших подростков и поскольку у родителей поставленным на кон оказалось самое дорогое, последним не осталось ничего другого, кроме как объединиться и повести против Кришны борьбу. К их лагерю сразу примкнули родители ушедших в незарегистрированное официально "Великое Белое Братство" приверженцев матери мира Марии Дэви и близкие членов значащейся в документах как общественная организация "Лиги духовного возрождения Санатана Дхарма, Центра по изучению человека".

Под перекрестным огнем оказались структуры власти, имеющие хоть какое-то отношение к религиям, и средства массовой информации. Доказывая собственную правоту, к ним апеллировали обе стороны.

***

По поручению Верховного Совета республики Министерство юстиции проверило уставную деятельность "Лиги духовного возрождения Санатана Дхарма". Результатом проверки стал документ, цитату из которого мне хочется обнародовать:

"По сообщению родителей, посещение мероприятий Лиги отрицательно сказывается на состоянии здоровья и поведении детей (ухудшается аппетит, проявляется безразличие, заторможенность мышления, злобность, агрессивность и пр.), т.е. в деятельности Центра усматриваются элементы посягательства на здоровье и нравственность населения".

К сожалению, найти научные и медицинские термины для обозначения состояния познакомившихся с новой верой детей пока не удалось. Нет у нас специалистов или учреждений, которые могли бы скрупулезно изучить влияние медитаций на организм подростка, связь между вегетарианством, чтением мантр и внушаемостью, определить, какому воздействию подвергалась детская психика. За годы безверия мы привыкли определять свое отношение к учениям по иным, более понятным показателям: не пьют они там вместе? не курят? Если и развратом не занимаются, значит, плохому их не учат.

— Бываем мы в минском храме, пробовали прасад, проверяли и общину кришнаитов под Крупками, — пояснили мне в Комитете по делам религий при Совете Министров республики. — Руководство хозяйства довольно, у жителей претензий к ним нет...

Не жалуются и соседи минского храма — кришнаиты живут тихо, чисто. Зайдешь — улыбаются, прасад предлагают. И вообще, не жадничают — пресса уже успела рассказать о серии бесплатных обедов и проповедей для малоимущих, голодных и праздношатающихся.

— За чей, простите, счет даются эти бесплатные обеды? — первым об этом спросил народный депутат республики Виктор Кучинский. По крайней мере, один стабильный источник дохода минского храма родители могут назвать: их дети, следуя желанию Кришны, распространяют книги Шрилы Прабхупады. Если тепло, стоят с лотками на людных перекрестках. Зимой ходили по квартирам, предлагали красочно оформленные издания. Поскольку Кришна учит быть честными и не наслаждаться результатами своего труда, судьба вырученных от продажи книг (в храме они называются пожертвованными) денег перестает интересовать бхакту после того, как деньги передаются в храм.

— Мы слишком долго были обществом закрытого типа, — считает Виктор Кучинский. — Поэтому хлынувшие сегодня потоком неорганичные для нашей истории веры и философии воздействуют на совершенно не подготовленное к ним сознание. Последствия часто уродливы, ведь учения должны утверждаться — или не утверждаться — эволюционным путем, а то, что происходит сейчас, скорее похоже на интервенцию против неокрепших душ. Религиозные организации не имеют права вредить государству. То же, что наша молодежь уходит из семей, бросает учебу, теряет всякий интерес к жизни общества, иначе как вред расценить нельзя.

***

С "Великим Белым Братством" расставить акценты было проще. Те называют дату конца света и призывают бросать все, чтобы спастись. "Основоположники" этой веры давно разыскиваются украинской прокуратурой, а психотерапевты, обследовав принявших крещение у "братьев" детей, нашли у них явные нарушения деятельности мозга и сделали вывод о зомбировании подростков.

Испуганные этим открытием и рассказами украинских товарищей по несчастью, отцы и матери поверивших "пришлым" богам детей сейчас требуют принятия закона, который защищал бы психику человека от вторжения извне, а также всестороннего медицинского обследования увлекшихся мантрами, медитациями и йогой подростков.

***

А сейчас наивно взывать к гражданскому самосознанию кришнаита Сережи — подобные доводы сегодня малоэффективны. Бесполезно и пугать старостью наедине с Кришной, которую предрекают ему близкие, обеспокоенные безразличием к учебе, былым увлечениям и полным отсутствием практицизма. Старость без Бога в душе страшнее.

Тогда, после разговора с Сережей, я имела неосторожность дома включить телевизор.

— Суженый мой, ряженый, — пропела с экрана уважаемая не только мной Ирина Аллегрова, и камера выхватила того, без которого ей белый свет не мил, на фоне кроваво-красного авто.

Конечно, спасибо Кришне хотя бы за то, что он предложил иной, не укладывающийся в схему "он, она плюс иномарка" рецепт счастья. Но, давая пристанище неустроенным душам, Кришна в предлагаемом нам варианте забывает об умах и телах.

В доме Сережи не любят вспоминать тот день, когда все домашние лежали с тяжелой формой гриппа, а он ушел ночевать в храм. Родным тогда очень нужна была его поддержка — словом, стаканом горячего чаю, — он просто не заметил этого, потому что бхакта должен все 24 часа в сутки думать о Кришне. Тем же, кто о Кришне не думает, вовсе нет дела до того, как его объясняют верящим.

"...Ученые-материалисты квакают:"Ква-ква-ква", но когда приходит смерть, наступает конец их научной деятельности, а они становятся собаками, кошками или кем-нибудь в этом роде, — уверяет Его Божественная Милость Шрила Прабхупада на страницах своих сочинений. — На самом деле эти ученые — мошенники... Наше движение сознания Кришны должно разоблачать всех этих обманщиков. Они всего-навсего блефуют."

Кто защитит от вульгаризации — веру?

От посягательств — душу?

